ПРОЕКЦИЯ ФРОНТАЛЬНАЯ




◇ ПРАЕ́КЦЫЯ ФРАНТА́ЛЬНАЯ - вIдарыс, якI атрымлIваюць пры паралельным праецыраваннI прадмета на франтальную плоскасць праекцый /V/.

ПРОЕЦИРОВАНИЕ

◇ ПРАЕЦЫ́РАВАННЕ - сукупнасць чарцёжных прыёмаў I пабудоў для атрымання праекцыI прадмета на плоскасцI паступовым I паслядоўным нанясеннем характэрных пунктаў I контураў прадмета.

ПРОЕЦИРОВАНИЕ ПАРАЛЛЕЛЬНОЕ




◇ ПРАЕЦЫ́РАВАННЕ ПАРАЛЕ́ЛЬНАЕ - праецыраванне, пры якIм праецыруючыя праменI паралельныя. П.П. бывае косавугольным/ праецыруючыя праменI нахIлены да плоскасцI праекцый/ I прамавугольным /праецыруючыя праменI перпендыкулярныя да плоскасцI праекцый/.

ПРОЕЦИРОВАНИЕ ЦЕНТРАЛЬНОЕ




◇ ПРАЕЦЫ́РАВАННЕ ЦЭНТРА́ЛЬНАЕ - праецыраванне, пры якIм праецыруючыя праменI выходзяць з аднаго пункта - цэнтра праекцый.

ПРОКЛАДКА




◇ ПРАКЛА́ДКА - плоская тонкая дэталь, якая размяшчаецца памIж дэталямI ў месцах Iх раздыму. П. забяспечвае герметычнасць злучэння. Формы П. могуць быць рознымI, але павIнны адпавядаць форме паверхняў, якIя ўшчыльняюцца.

ПРОПИСНЫЕ БУКВЫ

◇ ВЯЛІ́КІЯ ЛІ́ТАРЫ - АБВГДЕ

ЖЗИКЛМНОПРСТУФХЦЧШЫЭЮЯ

ПРОСТРАНСТВЕННЫЕ ПРЕДСТАВЛЕНИЯ

◇ ПРАСТО́РАВЫЯ ЎЯЎЛЕ́ННІ - здольнасць мысленна ўяўляць прасторавую форму прадмета па вIдарысу або здольнасць мысленна ўтвараць новыя прасторавыя вобразы.

ПРОФИЛЬНАЯ ПЛОСКОСТЬ

◇ ПРО́ФІЛЬНАЯ ПЛО́СКАСЦЬ -плоскасць, паралельная профIльнай плоскасцI праекцый.





ПРОФИЛЬНАЯ ПЛОСКОСТЬ ПРОЕКЦИЙ

◇ ПРО́ФІЛЬНАЯ ПЛО́СКАСЦЬ ПРАЕ́КЦЫЙ - вертыкальная плоскасць, перпендыкулярная франтальнай I гарызантальнай плоскасцям праекцый.

ПРОФИЛЬ РЕЗЬБЫ




◇ ПРО́ФІЛЬ РАЗЬБЫ́ - контур сячэння вIтка ў плоскасцI, якая праходзIць праз вось разьбы.
1/П.Р.метрычнай - роўнастароннI трохвугольнIк,
2/П.Р.трубнай цылIндрычнай - трохвугольнIк з вуглом пры вяршынI-55°,
3/П.Р.трапецаIдальнай - роўнабочная трапецыя з вуглом 30°.
4/П.Р.упорнай - няроўнабочная трапецыя з вуглом рабочай стараны 3° I нерабочай - 30°.

ПРЯМАЯ ОБЩЕГО ПОЛОЖЕНИЯ




◇ ПРАМА́Я АГУ́ЛЬНАГА СТАНО́ВІШЧА - прамая, нахIленая да ўсIх плоскасцей праекцый.

ПРЯМАЯ ПРОЕЦИРУЮЩАЯ

◇ ПРАМА́Я ПРАЕЦЫ́РУЮЧАЯ - прамая, напрамак якой супадае з напрамкам праецыравання. Пры артаганальным праецыраваннI П.П. перпендыкулярная да плоскасцI праекцый.

ПРЯМАЯ УРОВНЯ




◇ ПРАМА́Я ЎЗРО́ЎНЮ - прамая, паралельная якой-небудзь плоскасцI праекцый.
1/ франтальная прамая ўзроўню,
2/ гарызантальная прамая ўзроўню,
3/ профIльная прамая ўзроўню.

ПРЯМАЯ ЧАСТНОГО ПОЛОЖЕНИЯ

◇ ПРАМАЯ АСОБАГА СТАНОВІШЧА - прамая, размешчаная ў прасторы паралельна/прамая ўзроўню/ або перпендыкулярна/праецыруючая прамая/ да якой-небудзь плоскасцI праекцый.

Р

РАДИУС







◇ РА́ДЫУС – адлегласць ад цэнтра да любога пункта акружнасцІ або сферы. На чарцяжах абазначаецца лІтарамІ R, $r$.

РАДИУСОМЕР




◇ РАДЫУСАМЕ́Р – вымяральная прылада ў выглядзе камплекта пласцІнІстых шаблонаў. Памер радыуса закруглення вызначаюць падборам адпаведнай пласцІны на прасвет.

РАЗВЕРТКА ПОВЕРХНОСТИ







◇ РАЗГО́РТКА ПАВЕ́РХНІ – плоская фІгура, якая атрымлІваецца пры сумяшчэннІ паверхнІ з плоскасцю.

РАЗМЕР

◇ РАЗМЕ́Р – лІк, якІ характарызуе велІчыню адрэзка або вугла. У першым выпадку ён называецца лІнейны, у другІм – вуглавым.

РАЗМЕР ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫЙ

◇ РАЗМЕ́Р САПРА́ЎДНЫ – размер, атрыманы ў вынІку вымярэння з дапушчальнай хІбнасцю. Р.С. павІнен знаходзІцца памІж найбольшым І найменшым гранІчнымІ размерамІ.

РАЗМЕР ШРИФТА




◇ РАЗМЕ́Р ШРЫФТА́ – размер, якІ адпавядае вышынІ вялІкІх лІтараў. Вышыня малых лІтараў адпавядае наступнаму меншаму размеру шрыфта.

РАЗМЕР ПОД КЛЮЧ






◇ РАЗМЕ́Р ПАД КЛЮ́Ч – стандартызаваны размер, якІ ставяць на вІдарысе гайкІ, галоўкІ балта, шрубы І Інш. дэталей.



Р

РАЗМЕРЫ ГАБАРИТНЫЕ







◇ РАЗМЕ́РЫ ГАБАРЫ́ТНЫЯ – размеры, якІя вызначаюць гранІчныя вонкавыя/або ўнутраныя/ абрысы дэталІ/шырыня, вышыня, даўжыня/.Р.Г. адносяцца да неабходных на чарцяжы, паколькІ яны вызначаюць аб'ём, якІ займае выраб.

РАЗМЕРЫ СВОБОДНЫЕ

◇ РАЗМЕ́РЫ СВАБО́ДНЫЯ – размеры, якІя вызначаюць форму паверхнІ дэталІ, якая не датыкаецца да паверхняў Інш.дэталей у вырабе.

РАЗМЕРЫ СОПРЯЖЕННЫЕ

◇ РАЗМЕ́РЫ СУПРАЖА́НЫЯ – размеры, якІя вызначаюць форму паверхнІ дэталІ, што спалучаецца з паверхняй Інш.дэталей у вырабе, а таксама становІшча гэтых паверхняў у вырабе.

РАЗМЕРЫ СПРАВОЧНЫЕ




◇ РАЗМЕ́РЫ ДАВЕ́ДАЧНЫЯ – размеры, якІя не трэба выконваць па дадзенаму чарцяжу І якІя прыводзяцца для большай зручнасцІ карыстання чарцяжом. Р.Д. абазначаюць знакам * /зорачка/.

РАЗМЕРЫ УСТАНОВОЧНЫЕ И ПРИСОЕДИНИТЕЛЬНЫЕ

◇ РАЗМЕ́РЫ ЎСТАНО́ВАЧНЫЯ І ДАЛУЧА́ЛЬНЫЯ – размеры на зборачных чарцяжах, што вызначаюць велІчынІ элементаў, па якІх дадзены выраб устанаўлІваюць на месцы мантажу або далучаюць да Інш.вырабу.

РАЗМЕТКА



◇ РАЗМЕ́ТКА – нанясенне на паверхню загатоўкІ лІнІй/ рысак/ або кропак, якІя вызначаюць контуры дэталІ, цэнтры адтулІн або месцы, якІя трэба апрацаваць.

РАЗРЕЗ





◇ РАЗРЭ́З – вІдарыс прадмета, мысленна рассечанага адной або некалькІмІ плоскасцямІ. На Р. паказваюць тое, што размешчана ў сякучай плоскасцІ І за ёй.

РАЗРЕЗ ВЕРТИКАЛЬНЫЙ




◇ РАЗРЭ́З ВЕРТЫКА́ЛЬНЫ - назва разрэзу, калI сякучая плоскасць перпендыкулярна да гарызантальнай плоскасцI праекцый.
Р.В. называюць франтальным, калI сякучая плоскасць паралельна франтальнай плоскасцI праекцый, I профIльным, калI сякучая плоскасць паралельна профIльнай плоскасцI праекцый.

РАЗРЕЗ ГОРИЗОНТАЛЬНЫЙ




◇ РАЗРЭ́З ГАРЫЗАНТА́ЛЬНЫ - назва разрэзу, калI сякучая плоскасць паралельна гарызантальнай плоскасцI праекцый.

РАЗРЕЗ ЛОМАНЫЙ




◇ РАЗРЭ́З ЛО́МАНЫ - складаны разрэз, выкананы пры дапамозе дзвюх перакрыжаваных плоскасцей. Пры выкананнI Р.Л. сякучыя плоскасцI ўмоўна павараваюць да супадзення Iх у адну плоскасць, паралельную плоскасцI праекцый.

РАЗРЕЗ МЕСТНЫЙ



◇ РАЗРЭ́З МЯСЦО́ВЫ - разрэз, якI служыць для выяўлення будовы прадмета толькI ў асобным, абмежаваным месцы. Р.М. вылучаюць на выглядзе суцэльнай хвалIстай лIнIяй/ лIнIяй абрыву/.

РАЗРЕЗ НАКЛОННЫЙ




◇ РАЗРЭ́З НАХІ́ЛЕНЫ - разрэз, выкананы на чарцяжы пры дапамозе сякучай плоскасцI, якая складае з гарызантальнай плоскасцю праекцый вугал, адрозны ад прамога.

РАЗРЕЗ ПОПЕРЕЧНЫЙ

◇ РАЗРЭ́З ПАПЯРО́ЧНЫ - разрэз, выкананы з дапамогай сякучай плоскасцI, якая перпендыкулярна да даўжынI або вышынI прадмета.





РАЗРЕЗ ПРОДОЛЬНЫЙ

◇ РАЗРЭ́З ПАДО́ЎЖНЫ - разрэз, выкананы з дапамогай сякучай плоскасцI, якая праходзIць уздоўж даўжынI або вышынI прадмета.

РАЗРЕЗ ПРОСТОЙ

◇ РАЗРЭ́З ПРО́СТЫ - разрэз, выкананы з дапамогай адной сякучай плоскасцI.

РАЗРЕЗ СЛОЖНЫЙ

◇ РАЗРЭ́З СКЛАДА́НЫ - разрэз, выкананы некалькIмI сякучымI плоскасцямI. АдрознIваюць ступеньчатыя I ломаныя складаныя разрэзы.

РАЗРЕЗ СТУПЕНЧАТЫЙ







◇ РАЗРЭ́З СТУПЕ́НЬЧАТЫ - складаны разрэз, выкананы пры дапамозе дзвюх I больш паралельных памIж сабой сякучых плоскасцей.

РЕЗИНКА

◇ СЦІ́РКА - кавалак спецыяльна апрацаванага каўчуку, якI выкарыстоўваецца для зняцця непатрэбных лIнIй I надпIсаў.

РЕЗЬБА



цылiндрычная вонкавая



канiчная



унутраная

◇ РАЗЬБА́ - паверхня, утвораная пры вIнтавым руху плоскага контура па цылIндрычнай або канIчнай паверхнI. Разьба класIфIкуецца па форме паверхнI, на якой яна нарэзана/цылIндрычныя I канIчныя/, па размяшчэнню на паверхнI стрыжня або адтулIны/вонкавая I ўнутраная/, па форме профIлю/гл."ПРОФIЛЬ РАЗЬБЫ"/, па прызначэнню /крапёжная, хадавая, спецыяльная I Iнш./, па напрамку вIнтавой паверхнI/левая I правая/, па лIку заходаў/аднazаходавая I многазаходавая/.

РЕЗЬБОМЕР



◇ РАЗЬБАМЕ́Р - набор разьбавых шаблонаў, вымяральная прылада, якой вызначаюць шаг разьбы I лIк нIтак на цалёвай разьбе.

## Р

РАЗРЫВ



◇ РАЗРЫ́Ў - умоўны прыём, якІ прымяняецца пры выкананнІ чарцяжоў доўгІх прадметаў з метай скарачэння даўжынІ Іх вІдарыса. Разрыў дэталІ паказваюць суцэльнай хвалІстай лІнІяй.

РЕБРО ЖЕСТКОСТИ



◇ КАНТ ЦВЁРДАСЦІ - пласцІнчаты выступ на ўнутранай або вонкавай паверхнІ дэталей. Кант цвёрдасцІ павялІчвае паверхню цеплааддачы, служыць для зручнасцІ захопу пры ручным закручваннІ разьбовых дэталей.

РЕЙСФЕДЕР



◇ РЭЙСФЕ́ДЭР - чарцёжная прылада для правядзення лІнІй тушшу.

РЕЙСШИНА



◇ РЭЙСШЫ́НА - чарцёжная лІнейка для правядзення паралельных лІнІй. Рэйсшына мае доўгую лІнейку І планку, якая мацуецца да лІнейкІ пад прамым вуглом.

РЫЧАГ



◇ РЫЧА́Г - дэталь у выглядзе прамога або выгнутага стрыжаня цІ пласцІны з адтулІнай для восІ вярчэння І двума або больш пунктамІ прыкладання сІл.

## С

САЛЬНИК

◇ САЛЬНІК - ушчыльняльнІк, якІ герметызуе зазор памІж рухомай І нерухомай дэталямІ механІзмаў. Матэрыялам для набІўкІ служаць насычаныя талькам або тэхнІчным тлушчам І графІтавым парашком шнуры з баваўнянай пражы, пянькІ, джуту, азбесту, прарызІненай тканІны І г.д.

СВЕРЛО



◇ СВЕ́РДЗЕЛ - рэжучы Інструмент для атрымання адтулІн у метале І Інш. матэрыялах. Свердзел уяўляе сабой цылІндрычны стрыжань з дзвюма вІнтавымІ канаўкамІ для выхаду стружкІ, якая ўтвараецца пры свІдраваннІ.

СВЕРЛЕНИЕ

◇ СВІДРАВАННЕ - атрыманне цылІндрычных адтулІн розных памераў свердлам.



## С

СЕЧЕНИЕ




◇ СЯЧЭ́ННЕ - вІдарыс фІгуры, якая атрымлІваецца ў вынІку мысленага рассячэння прадмета адной або некалькІмІ плоскасцямІ; на С. паказваюць толькІ тое, што атрымлІваецца непасрэдна ў сякучай плоскасцІ. С. ўваходзяць у склад разрэзаў І Існуюць як самастойныя вІдарысы.

СЕЧЕНИЕ ВЫНЕСЕННОЕ




◇ СЯЧЭ́ННЕ ВЫ́НЕСЕНАЕ - сячэнне, якое размяшчаюць на свабодным месцы поля чарцяжа або ў разрыве вІдарыса дэталІ. Контур сячэння вычэрчваецца суцэльнымІ асноўнымІ лІнІямІ. С.В. па пабудове І размяшчэнню павІнна адпавядаць напрамку, якІ ўказваюць стрэлкІ. С.В. суправаджаюць надпІсам па тыпу: А-А, вялІкІмІ лІтарамІ рускага алфавІта. Вынесеным сячэнням трэба аддаваць перавагу.

СЕЧЕНИЕ НАЛОЖЕННОЕ



◇ СЯЧЭ́ННЕ НАКЛА́ДЗЕНАЕ - сячэнне, якое сумяшчаецца з адпаведным вІдарысам дэталІ І вычэрчваецца суцэльнымІ тонкІмІ лІнІямІ; сІметрычнае сячэнне не абазначаюць.

СИНУСОИДА




◇ СІНУСО́ІДА - плоская крывая - графІк функцыІ. АдносІцца да цыклІчных крывых.

СКОС



◇ СКО́С - нахІлены зрэз дэталІ.

СКРУГЛЕНИЕ УГЛОВ ЗАДАННЫМ РАДИУСОМ




◇ СКРУГЛЕННЕ ВУГЛОЎ ЗАДАДЗЕНЫМ РАДЫУСАМ - супражэнне дзвюх прамых, якІя перасякаюцца, дугой зададзенага радыуса пасля таго, як на чарцяжы вызначаны цэнтр дугІ скруглення.

**СОЕДИНЕНИЕ БОЛТОМ**



◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ БАЛТО́М</u> - нерухомае раздымнае злучэнне дзвюх I больш дэталей, якIя зацIскаюцца памIж галоўкай балта I гайкай. На чарцяжах зборачных адзIнак можна паказваць балтавое злучэнне спрошчана, а калI дыяметр стрыжня балта на чарцяжы роўны 2 мм I менш, то ўмоўна.

**СОЕДИНЕНИЕ ВИНТОМ**



◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ШРУ́БАЙ</u> - раздымнае нерухомае злучэнне дэталей пры дапамозе шрубаў, якIя ўкручваюцца ў разьбу ў целе адной з дэталей. На зборачных чарцяжах вычэрчваюць па адносных размерах, г.зн. у адпаведнасцI з вонкавым дыяметрам разьбы. Можна вычэрчваць шрубу спрошчана I ўмоўна.

**СОЕДИНЕНИЕ ДЕТАЛЕЙ**

◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ДЭТА́ЛЕЙ</u> - змацаванне дэталей для стварэння з Iх машын, механIзмаў, агрэгатаў, прылад I да т.п. АдрознIваюць рухомае I нерухомае З.Д. Нерухомае злучэнне можа быць раздымным.

**СОЕДИНЕНИЕ ЗАКЛЕПОЧНОЕ**



◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ЗАКЛЁПАЧНАЕ</u> - нераздымнае злучэнне дэталей пры дапамозе заклёпак. Заклёпачнае злучэнне прымяняюць звычайна пры вырабе канструкцый з лёгкIх сплаваў, у дакладным машынабудаваннI, радыётэхнIцы, авIяцыI I Iнш. галIнах прамысловасцI.

**СОЕДИНЕНИЕ НЕРАЗЪЕМНОЕ**

◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ НЕРАЗДЫ́МНАЕ</u> - злучэнне дэталей, пры якIм разборка вузла магчыма толькI пры разбурэннI мацавання або самIх дэталей. Да З.Н. адносяцца заклёпачныя, клеявыя, зварныя I Iнш.

**СОЕДИНЕНИЕ РАЗЪЕМНОЕ**

◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ РАЗДЫ́МНАЕ</u> - злучэнне, разборка якога не патрабуе разбурэння элементаў злучэння. Да З.Р. адносяцца злучэннI балтавыя, шрубавыя, шпIлечныя I Iнш.





**СОЕДИНЕНИЕ СВАРНОЕ**




◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ЗВАРНО́Е</u> - нераздымнае злучэнне дзвюх I больш дэталей з дапамогай зваркI. Па спосабу ўзаемнага размяшчэння частак, якIя зварваюцца, адрознIваюць наступныя вIды З.З.: стыкавыя- С, вуглавыя - У, таўравыя Т, унахлёстку- Н. ЛIтаральныя абазначэннI З.З. суправаджаюцца лIчбай/СI, У3, Т2 Н4 I г.д./, якая характарызуе сукупнасць усIх канструкцыйных асаблIвасцей шва.

**СОЕДИНЕНИЕ ТРУБНОЕ**



◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ТРУ́БНАЕ</u> - раздымнае злучэнне труб з дапамогай фасонных злучальных частак труб з разьбой/фIтынгI/, якое прымяняецца ў сIстэме водаправода, цэнтральнага ацяплення, газаправода I да т.п. Для злучэння труб на Iх канцах наразаюць, як правIла, трубную цылIндрычную разьбу.

**СОЕДИНЕНИЕ ШПИЛЬКОЙ**



◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ШПÍЛЬКАЙ</u> - нерухомае раздымнае злучэнне дзвюх I больш дэталей, якое прымяняецца замест балтавога злучэння ў тым выпадку, калI немагчыма выканаць навылётную адтулIну ў адной са злучаемых дэталей або калI ў канструкцыI злучэння няма месца для галоўкI балта.

**СОЕДИНЕНИЕ ШПОНКОЙ**




◇ <u>ЗЛУЧЭ́ННЕ ШПО́НКАЙ</u> - нерухомае злучэнне вала I надзетай на яго дэталI з дапамогай шпонкI для перадачы вярчальнага моманту I фIксацыI элементаў гэтага злучэння. У падоўжным разрэзе шпонкI паказваюць нерассечанымI, а для вала прымяняюць мясцовы разрэз.

СОЕДИНЕНИЕ ШПЛИНТОМ

◇ ЗЛУЧЭ́ННЕ ШПЛIНТО́М - нерухомае раздымнае злучэнне, якое папярэджвае самаадкручванне гайкI ў разьбавым злучэннI, а таксама саслIзгванне дэталей, надзетых на гладкI вал.

СООСНЫЕ ТЕЛА

◇ СУВО́СЕВЫЯ ЦЕ́ЛЫ - целы, якIя маюць агульную вось.

СОПРЯЖЕНИЕ

◇ СУПРАЖЭ́ННЕ - плаўны пераход адной лIнII ў другую.

СПЕЦИФИКАЦИЯ

◇ СПЕЦЫФIКА́ЦЫЯ - канструктарскI дакумент, якI вызначае састаў зборачнай адзIнкI, комплексу або камплекта. С. складаецца на кожны выраб I змяшчае парадкавы нумар, назву матэрыялу, з якога зроблены дэталI дадзенага вырабу, колькасць дэталей, якIя Iдуць на адзIн выраб I некаторыя Iнш. даныя.

СПИРАЛЬ АРХИМЕДА

◇ СПIРА́ЛЬ АРХIМЕ́ДА - плоская крывая, якая апIсваецца пунктам, што рухаецца па прамой, у той час, як сама прамая раўнамерна верцIцца ў плоскасцI вакол аднаго са сваIх пунктаў. С.А. прымяняецца ў канструкцыях эксцэнтрыкаў, кулачкоў, фасонных фрэз, спIральных спружын.

СТАНДАРТ

◇ СТАНДА́РТ - нарматыўны дакумент, якI змяшчае шэраг патрабаванняў, якIя трэба выконваць.
Кожны стандарт мае сIлу закона ў галIне яго дзеяння.





СТАНДАРТИЗАЦИЯ

◇ СТАНДАРТЫЗА́ЦЫЯ - устанаўленне I прымяненне правIл з мэтай упарадкавання дзейнасцI ў пэўнай галIне пры ўдзеле усIх зацIкаўленых бакоў I, у прыватнасцI, для дасягнення ўсеагульнай аптымальнай эканомII пры выкананнI ўмоў эксплуатацыI I патрабаванняў бяспекI.

СТОЙКА

◇ СТО́ЙКА - апорная дэталь, якая мае прызматычную, пIрамIдальную або цылIндрычную форму. Вышыня яе звычайна значна больш памераў у плане. С. устанаўлIваюць на гарызантальнай паверхнI машын, механIзмаў. Да яе канструкцыйных элементаў замацоўваюцца Iншыя дэталI.

СТРЕЛКА

15°-20°

5min

◇ СТРЭ́ЛКА - востры канец размерных I паказальных лIнIй на чарцяжы. Па форме С. бываюць аднабаковыя I двухбаковыя. Аднабаковыя С. прымяняюць для вынасу ўмоўных абазначэнняў зварных швоў/гл. "Злучэнне зварное"/. ВелIчыню размерных С. выбIраюць у залежнасцI ад таўшчынI лIнIй бачнага контуру.

СТРОЧНЫЕ БУКВЫ

◇ РАДКО́ВЫЯ / МА́ЛЫЯ / ЛÍТАРЫ -

абвгдежзйклмнопрстуфхцч

СФЕРА

◇ СФЕ́РА - паверхня шара, утвораная вярчэннем паўакружнасцI вакол яе дыяметра. КалI на чарцяжы цяжка адрознIваць С. ад Iнш. паверхнI, дапускаецца надпIс: Сфера ⌀ 20, Сфера R I2.

СХЕМА

◇ СХЕ́МА - вIдарыс, якI спрошчана I ўмоўна перадае размяшчэнне прадметаў. У залежнасцI ад элементаў, якIя ўваходзяць у склад вырабу, С. бываюць: электрычныя /Э/, кIнематычныя/К/, гIдраўлIчныя/Г/, пнеўматычныя/П/, вакуумныя/В/, аптычныя/О/ I Iнш. С. выконваюцца без захавання маштаба.

## Т

**ТЕЛА ВРАЩЕНИЯ**

◇ ЦЕ́ЛЫ ВЯРЧЭ́ННЯ - абмежаваная вобласць прасторы, утвораная вярчэннем замкнутай плоскай фІгуры вакол нерухомай восІ. Да Ц.В. адносяцца конус, цылІндр, сфера, тор.

**ТЕМПЛЕТ**

◇ ТЭМПЛЕ́Т - самастойна выкарастаны вІдарыс прадмета, якІ ўяўляе сабой яго спрошчаную праекцыю. Т. прымяняюць пры распрацоўцы чарцяжоў складаных агрэгатаў, што спрашчае графІчныя работы.

**ТЕРМИНОЛОГИЯ ЧЕРЧЕНИЯ**

◇ ТЭРМІНАЛО́ГІЯ ЧАРЧЭ́ННЯ - сукупнасць тэрмІнаў, якІя ўжываюцца ў дадзенай галІне ведаў.

**ТЕХНИЧЕСКИЙ РИСУНОК**



◇ ТЭХНІ́ЧНЫ РЫСУ́НАК - наглядны вІдарыс прадмета, выкананы ад рукІ па правІлах аксанаметрыІ з захаваннем прапорцый на вока.

**ТИПОВЫЕ СОЕДИНЕНИЯ ДЕТАЛЕЙ**

◇ ТЫПАВЫ́Я ЗЛУЧЭ́ННІ ДЭТА́ЛЯЎ - злучэннІ, якІя шматразова сустракаюцца ў механІзмах розных машын / балтавыя, шпоначныя, шрубавыя І г.д./.

**ТОР**



◇ ТО́Р - геаметрычная цэла, якое ўтворана вярчэннем круга вакол прамой, што ляжыць у плоскасцІ гэтага круга.

**ТОРЕЦ**



◇ ТАРЭ́Ц - папярочная ў адносІнах да даўжынІ або да восІ дэталІ паверхня, якой абмяжоўваецца дэталь. Т. можа мець канІчную сферычную або плоскую форму.

**ТОЧКА**

◇ ПУ́НКТ - адно з асноўных паняццяў геаметрыІ.



## Т

**ТОЧКА ВСТРЕЧИ**

◇ ПУ́НКТ СУСТРЭ́ЧЫ - у начартальнай геаметрыІ - пункт перасячэння лІнІІ з плоскасцю або паверхняй.

**ТРАНСПОРТИР**

◇ ТРАНСПАРЦІ́Р - прылада для вымярэння І пабудовы плоскІх вуглоў.

**ТРАФАРЕТ**

◇ ТРАФАРЭ́Т - прыстасаванне для паскарэння чарцёжна-графІчных работ. Т. уяўляе сабой пласцІну з адтулІнамІ. Бываюць трафарэты агульнага І спецыяльнага прызначэння.

**ТРЕУГОЛЬНИК**



◇ ТРОХВУГО́ЛЬНІК - многавугольнІк, якІ мае тры стараны. Т. абазначаюць скарочана так: △ABC.

**ТРЕХГРАННЫЙ УГОЛ**




◇ ТРОХГРА́НЫ ВУ́ГАЛ - прасторавая фІгура, утвораная трыма ўзаемна перпендыкулярнымІ плоскасцямІ.

## У

**УГЛОМЕР**

◇ ВУГЛАМЕ́Р - Інструмент для вымярэння вуглоў дэталей машын І Інш. вырабаў кантактным спосабам.

**УГОЛЬНИК**



◇ ВУГО́ЛЬНІК - дэталь, якая мае паверхнІ, змешчаныя адносна адна адной пад прамым вуглом.

**УГОЛЬНИК ЧЕРТЕЖНЫЙ**



◇ ВУГО́ЛЬНІК ЧАРЦЁЖНЫ - Інструмент у выглядзе плоскага прамавугольнага трохвугольнІка для правядзення вертыкальных І нахІленых лІнІй на чарцяжы.

**УЗЕЛ**

◇ ВУЗЕЛ - І.Частка машыны, механІзма, устаноўкІ І да т.п., якая складаецца з некалькІх дэталей. 2.Частка збудавання ў месцы злучэння некалькІх стрыжняў у будаўнІчных канструкцыях.

## У

УКЛОН




◇ УХІЛ - нахІл адной прамой лІнІІ адносна другой, адносІны супрацьлеглага востраму вуглу катэта ВС да прылеглага катэта АС. УхІл на чарцяжы выражаецца простым дробам або ў працэнтах. Перад лІкавым значэннем ухІлу ставяць знак ∠ востры вугал якога накІравана ў бок ухІлу.

УНИФИКАЦИЯ

◇ УНІФІКА́ЦЫЯ - прывядзенне мноства падобных вІдаў тыпавых дэталей І канструкцый да невялІкага лІку вызначаных тыпаў/тыпаразмераў/ аднолькавых па форме І памерах. У. дэталей павІнна забяспечваць Іх узаемазамяняльнасць.

УПЛОТНИТЕЛЬ

◇ УШЧЫЛЬНЯ́ЛЬНІК - прыстасаванне, якое папярэджвае або памяншае ўцечку вадкасцІ, пары або газу праз зазоры памІж дэталямІ, а таксама ахоўвае дэталІ ад пранІкнення бруду І пылу./гл."САЛЬНІК"/.

УПРОЩЕНИЯ НА ЧЕРТЕЖАХ




◇ СПРАШЧЭ́ННІ НА ЧАРЦЯЖА́Х - графІчны прыём, рэкамендаваны ДАСТ 2.305-68, якІ дазваляе паскорыць І палегчыць выкананне чарцяжоў. Напрыклад: І/калІ ў дэталІ маецца некалькІ аднолькавых элементаў, на чарцяжы паказваюць адзІн або два гэтых элементаў, а астатнІя чэрцяць умоўна.

2/пры выкананнІ чарцяжоў зубчастых колаў І Інш.дэталей, якІя маюць аднолькавыя з раўнамерным паўторам канструкцыйныя элементы паказваюць частку прадмета І пІшуць колькасць элементаў.

3/пры выкананнІ вІдарыса, якІ ўяўляе сабой сІметрычную фІгуру, дапускаецца вычэрчваць палову вІдарыса.

4/пры вычэрчваннІ дэталей, якІя маюць некалькІ аднолькавых адтулІн, дапускаецца паказваць адну, а астатнІя азначаць цэнтравымІ лІнІямІ.






## Ф

ФАСАД

◇ ФАСА́Д - вонкавая старана збудавання. АдрознІваюць галоўны, бакавы, дваровы І Інш. фасады.

ФАСКА




◇ ФА́СКА - зрэзаны вугал цІ кант плоскага або цылІндрычнага вырабу, прызначаны для больш зручнага І хуткага спалучэння дэталей І лІквІдацыІ вострага канта. Ф. засцерагае разьбу ад пашкоджанняў.

ФЛАНЕЦ

◇ ФЛА́НЕЦ - злучальная частка трубаправодаў, валоў І да т.п., якая складаецца з дыскаў з раўнамерна размешчанымІ адтулІнамІ.

ФОРМАТЫ ЧЕРТЕЖЕЙ

◇ ФАРМА́ТЫ ЧАРЦЯЖО́Ў - памеры лІстоў паперы, на якІх выконваюць чарцяжы. ДАСТ 2.301-68 устанаўлІвае асноўныя фарматы чарцяжоў. Напрыклад:
фармат А3 /297 х 420 /,
фармат А4 /210 х 297 / І г.д.

ФРОНТАЛЬНАЯ ПЛОСКОСТЬ ПРОЕКЦИЙ

◇ ФРАНТА́ЛЬНАЯ ПЛО́СКАСЦЬ ПРАЕКЦЫЙ - вертыкальная плоскасць, перпендыкулярная гарызантальнай І профІльнай плоскасцям праекцый.

## Х

ХВОСТОВИК

◇ ХВАСТАВІ́К - элемент дэталей у выглядзе выступа, з дапамогай якога гэтыя дэталІ ўстанаўлІваюцца І мацуюцца ў адтулІнах Іншых дэталей.

ХОМУТ

◇ ХАМУ́Т - выгнутая дэталь з канцамІ, якІя сцягваюцца; служыць для мацавання труб, зрошчвання драўляных брусоў.

## Х

ХОРДА




◇ ХОРДА - адрэзак прамой, якI злучае два пункты якой-небудзь крывой лiнII, напрыклад акружнасцI. Хорда, што праходзIць праз цэнтр акружнасцI, называецца дыяметрам.

ХРАПОВИК

◇ ХРАПАВIК - зубчасты механIзм для перыядычнай астаноўкI вала, якI верцIцца ў адным напрамку.

## Ц

ЦЕНТР ОКРУЖНОСТИ

◇ ЦЭНТР АКРУЖНАСЦI - пункт, роўнааддалены ад усIх пунктаў акружнасцI або яе дугI.

ЦЕНТР ПРОЕЦИРОВАНИЯ

◇ ЦЭНТР ПРАЕЦЫРАВАННЯ - пункт, з якога выходзяць праецыруючыя праменI пры цэнтральным праецыраваннI /гл."АПАРАТ ПРАЕЦЫРАВАННЯ/.

ЦИЛИНДР




◇ ЦЫЛIНДР - I.Геаметрычнае цела, абмежаванае цылIндрычнай паверхняй I дзвюма сякучымI плоскасцямI. 2/Полая дэталь з цылIндрычнай унутранай паверхняй.

## Ч

ЧЕРТЕЖ

◇ ЧАРЦЁЖ - дакумент, якI змяшчае графIчны вIдарыс на плоскасцI I выкананы з захаваннем шэрагу ўмоўных абазначэнняў. Ч. бываюць машынабудаўнIчыя, будаўнIчыя, тапаграфIчныя I iнш.

ЧЕРТЕЖ СБОРОЧНЫЙ

◇ ЧАРЦЁЖ ЗБОРАЧНЫ - дакумент, якI змяшчае вIдарыс зборачнай адзIнкI I Iнш. даныя, неабходныя для яе зборкI I кантролю.

ЧТЕНИЕ ЧЕРТЕЖА

◇ ЧЫТАННЕ ЧАРЦЯЖА - працэс уяўлення формы I памераў прадмета па яго ўмоўнаму вIдарысу.



## Ч

ЧЕРЧЕНИЕ

◇ ЧАРЧЭННЕ - I.Працэс выканання чарцяжа па пэўных правIлах пры дапамозе чарцёжных прылад I прыстасаванняў. 2.Прыкладная тэхнIчная дысцыплIна, якая змяшчае правIлы I прыёмы выканання вIдарысаў.

## Ш

ШАГ РЕЗЬБЫ




◇ ШАГ РАЗЬБЫ - адлегласць памIж суседнIмI аднайменнымI бакавымI старанамI профIлю ў напрамку паралельным восI разьбы.

ШАЙБА



◇ ШАЙБА - дыск з адтулIнай, падкладка пад гайку або галоўку шрубы для аховы паверхняў дэталей, якIя змацоўваюцца, а таксама для павелIчэння апорнай паверхнI гайкI або галоўкI шрубы.

ШАР



◇ ШАР - мноства пунктаў прасторы, адлегласць ад кожнага з якIх да дадзенага пункта/цэнтра шара/ не больш за адлегласць R /радыус шара/. Шар- геаметрычнае цела, атрыманае пры вярчэннI паўкруга вакол яго дыяметра. Паверхня шара называецца сферай.

ШЕСТЕРНЯ

◇ ШАСЦЯРНЯ - меншае, звычайна вядучае кола ў зубчастай перадачы.

ШЕСТИУГОЛЬНИК



◇ ШАСЦIВУГОЛЬНIК - геаметрычная фIгура.

ШЛИЦ



◇ ШЛIЦ - падоўжаны, раўнамерна размешчаны выступ або ўпадзIна,якая выконваецца знутры або звонку на цылIндрычных паверхнях дэталей I прызначаюцца для ўзаемнага зачаплення пры перадачы вярчэння.

ШПИЛЬКА




◇ ШПIЛЬКА - крапёжная дэталь у выглядзе цылIндрычнага стрыжаня з разьбой на абодвух канцах. Ш. умоўна абазначаюць па тыпу: ШпIлька М 20хI20 ДАСТ 22032-76.

Ш

ШПОНКА



◇ ШПО́НКА - дэталь, якая прызначана для злучэння вала з пасаджанай на яго дэталлю. Існуюць розныя тыпы шпонак: прызматычныя, сегментныя, клінавыя і інш.

ШПЛИНТ



◇ ШПЛІ́НТ - крапёжная дэталь, якая прымяняецца для злучэння слаба нагружаных частак машын, а таксама для папярэджвання самаадкручвання гайкі ў разьбавым злучэнні.

ШРАФФИРОВКА



◇ ШРАФІРО́ЎКА - сеткавая штрыхоўка лініямі для паказа абъёма дэталі на тэхнічных рысунках.

ШРИФТЫ ЧЕРТЕЖНЫЕ

1 2 3 4 5
6 7 8 9 0

◇ ШРЫФТЫ́ ЧАРЦЁЖНЫЯ -стандартныя шрыфты для выканання рукапісных надпісаў на чарцяжах. Размер шрыфта вызначаецца вышынёй вялікіх літар. Устаноўлены наступныя размеры шрыфта: 1,8; 2,5; 3,5; 5; 7; 10; 14; 20; 28; 40.

ШТИФТ



◇ ШТЫФТ - крапёжная дэталь у выглядзе цыліндрычнага або канічнага стрыжаня для нерухомага злучэння дэталей.

ШТАНГЕНЦИРКУЛЬ

◇ ШТАНГЕНЦЫ́РКУЛЬ - прылада для вымярэння вонкавых і ўнутраных размераў, а таксама глыбіні з дакладнасцю да 0,1 мм.

ШТРИХОВКА

◇ ШТРЫХО́ЎКА - шэраг тонкіх паралельных ліній на відарысе, нанесеных пад вуглом 45°, для вызначэння фігуры сячэння пры выкананні сячэнняў і разрэзаў.

Э

ЭВОЛЬВЕНТА ОКРУЖНОСТИ

◇ ЭВАЛЬВЕ́НТА АКРУ́ЖНАСЦІ - разгортка акружнасці; траекторыя любога пункта прамой лініі, якая перакочваецца па акружнасці без слізгання. Плоская крывая-след руху любога пункта акружнасці пры разгортванні ў адзін бок і адначасовым выпростванні.





Э

ЭКВАТОР

◇ ЭКВА́ТАР - лінія перасячэння сферычнай паверхні гарызантальнай плоскасцю, якая праходзіць праз цэнтр сферы.

ЭКСПЛИКАЦИЯ

◇ ЭКСПЛІКА́ЦЫЯ - тлумачэнне ўмоўных абазначэнняў прынятых у схематычных чарцяжах, картах і г.д. Афармляецца ў выглядзе табліцы.

ЭЛЕМЕНТЫ ПОВЕРХНОСТИ ГЕОМЕТРИЧЕСКИХ ТЕЛ

◇ ЭЛЕМЕ́НТЫ ПАВЕ́РХНІ ГЕАМЕТРЫ́ЧНЫХ ЦЕЛ - 1.Канты, 2/вяршыні, 3/грані 4/ крывыя паверхні.

ЭЛЕМЕНТЫ РЕЗЬБЫ /конструктивные/




◇ ЭЛЕМЕ́НТЫ РАЗЬБЫ́/канструкцыйныя/- P- шаг разьбы/ адлегласць паміж суседнімі аднайменнымі бакавымі старанамі профілю ў напрамку, паралельным восі разьбы.

d - вонкавы дыяметр разьбы,

$d_1$ - унутраны дыяметр разьбы.




ЭЛЛИПС




◇ ЭЛІПС - 1.Лінія перасячэння канічнай паверхні вярчэння з плоскасцю, якая перасякае адну яе поласць/канічнае сячэнне/.

2.Мноства пунктаў плоскасці,сума адлегласці якіх да двух пэўных пунктаў /фокусаў эліпса/пастаянная, роўная даўжыні вялікай восі эліпса.

ЭСКИЗ

◇ ЭСКІЗ - чарцёж часовага характару, выкананы без дапамогі чарцёжных інструментаў у вакамерным маштабе, пры якім павінны забяспечвацца прапорцыі дэталі і яе элементаў на ўсіх відарысах.

